


# Рабочы

Дзвінскага памежжа

30 лістапада - 6 снежня 2000г Тэл./факс у Верхнядзвінску: (02151) 2-25-08 Наклад 250 ас. № 35


АД ПАДЗЕІ ДА ПАДЗЕІ

## ІМПРЭЗЫ

У СШ №2 адбыўся першы ў раёне акт прэзентацыі кнігі "Памяць". Імпрэза праходзіла ў форме вуснага часопіса, падрыхтаванага актывам школьнага музею пад кіраўніцтвам настаўніцы гісторыі Л.І.Дзевяковіч. Перад вялікай аўдыторыяй навучэнцаў выступілі старшыня раённай рады былых вязняў фашысцкіх канцлагераў Г.С.Багушэвіч і ўкладальнік кнігі А.Ф.Бубала. Увазе школьнікаў была прапанавана таксама анатацыя бібліятэчкі літаратуры аб родным краі.

## ДАПАМОГА

Адна за другой працягваюць паступаць у Верхнядзвінск партыі гуманітараных грузаў. Апошняя з іх дастаўлена па лініі праграмы гуманітарнай дапамогі амераканскага фонда "Каунтэрпарт" на адрас гарадской арганізацыі Грамадскага аб'яднання "Беларуская арганізацыя працоўных жанчын" і Асацыяцыі многадзетных сем'яў. На гэты раз неабходныя рэчы атрымаюць многадзетныя сем'і, а таксама жанчыны, якія, знаходзячыся ў цяжкіх матэрыяльных абставінах, маюць патрэбу ў гуманітарнай дапамозе.

## СЕМІНАРЫ

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская арганізацыя працоўных жанчын" (БАПЖ) сумесна з Амерыканскай асацыяцыяй юрыстаў зладзілі ў Верхнядзвінску чарговы адукацыйны семінар. На гэты раз ён быў прысвечаны выбарчым тэхналогіям, што безумоўна з'яўляецца актуальным напярэдадні маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў. Больш за 40 удзельнікаў семінару, большасць з якіх складалі жанчыны, з цікавасцю выслухалі гасцей з Мінску, было шмат пытанняў. У семінары бралі ўдзел старшыня БАПЖ Марыя Аліева і прадстаўнік Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў Дэвід Мур.

## ВІЗІТЫ

Прадстаўнічая дэлегацыя работнікаў культуры вобласці наведала народны музей "Хатка бабкі Параскі" ў Цінкаўцах. Гаспадар "хаткі" С.Панізнік правёў экскурсію па "залах" музею (па двары, сенцах, "святліцы" ды паддашку), а руплівіцы-гаспадыні з раённай бібліятэкі пачаставалі гасцей дранікамі ды гарбатай з пірагамі. Усе былі ў захапленні ад экспазіцый, але адзначылі пры гэтым, што змесціва музею вартае лепшай "упакоўкі", г. зн. памяшкання.

## ВІНШУЕМ З ГАНАРОВЫМ ЗВАННЕМ!

*Перад высокай публікай абараніў свой гонар дзіцячы танцавальны калектыў раённага дома культуры "Весялушкі". У рэпертуары юных танцораў народныя і эстрадныя танцы і кампазіцыі. Высокае тэхнічнае майстэрства, артыстызм і іскрысты імпэт – тыя найлепшыя якасці, што прывіла сваім выхаванцам кіраўніца ансамблю Людміла Сяргееўна Гуйда, захапілі гледачоў і былі ўзнагароджаны не толькі гарачымі воплескамі. Камісія Упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама прыняла рашэнне аб прысваенні калектыву звання "ўзорнага".*


*Весялушкі*

## СУСТРЭЧА Ў РАЙВЫКАНКАМЕ

**Як ужо паведамлялася, адбылася чарговая сустрэча кіраўніцтва Верхнядзвінскага райвыканкама з лідэрамі грамадскіх аб'яднанняў раёна. Яе адметнасцю стала тое, што на гэты раз вялікую зацікаўленасць да яе праявіў старшыня райвыканкама І.М.Палачанін. Амаль тры гадзіны 16 лістапада доўжыўся дыялог за "круглым сталом" паміж раённымі ўладамі і прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый. Падчас сустрэчы І.М.Палачанін адказаў на шэраг пытанняў, якія сёння хвалююць жыхароў нашага раёна. Як мы абяцалі нашым чытачам, сёння друкуецца падрабязная справаздача аб гэтай сустрэчы.**

Арганізатарам мерапрыемства па даручэнні старшыні райвыканкама выступіў аддзел інфармацыі. Трэба адзначыць, што зроблена было ўсё, каб сустрэча прайшла ў спрыяльных умовах. Месцам яе правядзення стала вялікая актавая зала райвыканкама. Праходзіла яна не так, як звычайна, калі "народ" сядзіць у партэры, а высокае начальства прамаўляе з прэзідыума. На гэты раз усё адбывалася за "круглым сталом", і такія абставіны адразу ж паспрыялі нефармальнаму дыялогу паміж прадстаўнікамі трэцяга сектара і ўладамі.

На пачатку сустрэчы выступіла намеснік старшыні райвыканкама па сувязях з грамадскасцю Э.В. Аржанік. Яна пазнаёміла ўдзельнікаў мерапрыемства з вынікамі выбарчай кампаніі ў раёне. Было адзначана, што нашы выбаршчыкі не праявілі той актыўнасці, што была заўважана ў Міёрскім і Шаркаўшчынскім раёнах, якія ўваходзілі ў нашу выбарчую акругу. Акрамя таго, Эма Валянцінаўна станоўча адазвалася аб прысутнасці на выбарчых участках наглядальнікаў ад грамадскіх арганізацый і, падводзячы вынікі, выказала меркаванне, што прысутнасць незалежных наглядальнікаў сведчыць… аб даверы да выбараў (дзіўна, а мы меркавалі, што звычайная чалавечая логіка падказвае якраз адваротнае). Затым слова было дадзена старшыні райвыканкама, які пасля кароткай інфармацыі аб сацыяльна-эканамічным стане раёна адказаў на пытанні прысутных. Пытанняў было шмат, але мы закранем толькі тыя, якія цікавяць усіх жыхароў раёна.

Верхнядзвіншчына — край, дзе асновай эканомікі з'яўляецца сельскагаспадарчая вытворчасць. Таму зразумела, што Іосіф Мікалаевіч больш за ўсё гаварыў менавіта пра сельскую гаспадарку. Было адзначана, што, нягледзячы на не вельмі спрыяльнае надвор'е, нашы калгасы і саўгасы сёлета маюць нядрэнныя вынікі працы. Раён у гэтым годзе трапіў у лік лепшых у вобласці па ўраджайнасці, нядрэнныя паказчыкі мае і жывёлагадоўля (саўгас "Лявонішана"). Гаспадаркі раёна сабралі 16 тысяч тон зерня, што ў тры разы перавышае вынікі мінулага года, не скарацілася і пагалоўе буйной рагатай жывёлы, што ў гэтым годзе мае месца ў цэлым па вобласці. Аднак, нягледзячы на добры ўраджай, раён аказаўся ў вялікім фінансавым пройгрышы. Прычына – ў неадпаведнасці закупачных цэн на сельгаспрадукцыю яе сабекошту, ільвіная доля ў якім належыць кошту гаручага для тэхнікі. Калі на пачатку жніва кошт паліва ў сабекошце прадукцыі складаў 87%, то зараз, на час вяртання крэдытаў, узятых для закупкі гаручага, ён складае ўжо 247%! Гэтага азначае, што за літр набытага ў крэдыт гаручага трэба аддаць… амаль два з паловай кіло зерня. Можна не здзіўляцца зараз, чаму ў раёне такая вялікая запазычанасць па электраэнергіі (80 млн. рублёў) і чаму канторскім у калгасах і саўгасах прыходзіцца працаваць "пры лучыне".

Гаворачы пра прамысловыя прадпрыемствы раёна, І.М.Палачанін адзначыў у якасці станоўчага прыкладу Акцыянернае таварыства "Фабрыка мастацкіх выбрабаў "Міла"" і… Верхнядзвінскі лясгас у часы дырэктарства П.Я.Івашчанкі. Старшыня райвыканкама прызнаў, што ў адносінах да Паўла Ягоравіча кіраўніцтвам раёна была дапушчана памылка (мы неаднаразова паведамлялі нашым чытачам аб стане, у якім зараз апынулася зусім яшчэ нядаўна моцнае прадпрыемства пасля пазбаўлення пасады П.Я.Івашчанкі).

У ліку "ляжачых" прадпрыемстваў раёна знаходзіцца Верхнядзвінскі завод сталярных вырабаў. Нагадваем, што галоўнай прычынай катастрафічнага становішча завода з'яўляецца цэнавая палітыка дзяржавы. Аднак І.М.Палачанін лічыць, што не менш важкай прычынай з'яўляецца кадравая праблема, якая, на яго думку, існуе на прадпрыемстве. Ён прама сказаў, што не задаволены працай дырэктара завода, які не праяўляе неабходнай актыўнасці па пошуку выйсця з сапраўды вельмі складанай сітуацыі. Напрыклад, па словах старшыні райвыканкама, дырэктар прадпрыемства ніяк не адрэагаваў на прапанову латвійскага боку аб стварэнні сумеснага прадпрыемства.

Існуе ў нашым раёне і транспартная праблема. На думку кіраўніка раённай «вертыкалі», тут галоўнымі з'яўляюцца аб'ектыўныя прычыны – высокі кошт паліва, "дабітыя" старыя аўтобусы. Аднак і арганізацыя абслугоўвання насельніцтва кіраўніцтвам Верхнядзвінскай аўтабазы таксама не вельмі задавальняе райвыканкам. Сапраўды, няўжо цяжка кіроўцу аўтобуса, які прыехаў у аддаленую вёску, папярэдзіць пасажыраў, што няма бензіну на зваротны шлях. Старшыня райвыканкама лічыць адказным за падобныя выпадкі дырэктара аўтабазы. Ставілася нават пытанне перад абласным кіраўніцтвам аўтобуснікаў аб замене кіраўніка аўтабазы, але пакуль што яму дадзены шанец выправіць існуючае становішча.

Гаворачы пра зробленае ў накірунку добраўпарадкавання горада Верхнядзвінска, І.М.Палачанін паабяцаў, што ў наступным годзе будуць зроблены прыстойныя тратуары па вуліцы Савецкай (пра іх сённяшні стан пісала наша газета). На плітку для тратуараў будуць разабраныя дзве сенажныя башні ў калгасе "Усход".

Было закранута пытанне і аб тым, як райвыканкам збіраецца вырашаць існуючыя праблемы раённага бюджэту. На сёння галоўнай крыніцай яго папаўнення з'яўляецца Верхнядзвінская мытня. Аднак сродкаў, якія адтуль паступаюць у бюджэт раёну, недастаткова для забеспячэння яго расходнай часткі. Адным са шляхоў вырашэння гэтай праблемы І.М.Палачанін лічыць адкрыццё ў наступным годзе на Верхнядзвінскім хлебазаводзе лініі па вытворчасці пладова-ягадных він. Гэта дазволіць, на яго думку, займець значную крыніцу фінансавых паступленняў у бюджэт раёна (вытворчасць такога кшталту падлягае акцызу ў памеры 25%). З адкрыццём лініі будзе вырашана і праблема збыту насельніцтвам ураджаю з уласных садоў.

Адказаў кіраўнік «вертыкалі» і на пытанні аб перспектывах развіцця раёна. Каб наогул можна было весці гаворку аб нейкім развіцці, лічыць І.М.Палачанін, трэба вырашаць кадравую праблему. Гэта ж напрамую звязана з адукацыяй.

*Заканчэнне на стар. 2.*

*Сябры недзяржаўных грамадскіх аб'яднанняў бачыць адну з галоўных перспектыў развіцця нашага краю ў грамадзянскай актыўнасці яго насельніцтва, калі не ўлады, а самі грамадзяне вырашаюць большую частку ўласных праблем.*

# СУСТРЭЧА Ў РАЙВЫКАНКАМЕ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.*

Таму ўжо сёння ствараецца спецыяльны фонд райвыканкама, які будзе выдзяляць грошы на вучобу нашай моладзі ў навучальных установах краіны па неабходных раёну спецыяльнасцях. Менавіта з мэтай павелічэння адукацыйнага ўзроўню выпускнікоў школ кіраўніцтва раёна прыклала вялікія намаганні дзеля набыцця кампутарнага класа.

Не хаваў Іосіф Мікалаевіч і свайго станоўчага стаўлення да дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў раёна. Відавочна, што за апошнія гады, дзякуючы грамадзянскай актыўнасці сяброў гэтых арганізацый, яны ўносяць значны ўнёсак у вырашэнне існуючых у раёне сацыяльных праблем. Менавіта праз такія грамадскія арганізацыі, як Верхнядзвінская гарадская арганізацыя Грамадскага аб'яднання "Беларуская арганізацыя працоўных жанчын" (старшыня В.Кудлацкая), раённае аддзяленне Беларускага Фонду Міру, Асацыяцыя шматдзетных сем'яў у раён прыходзіць гуманітарная дапамога з многіх краін Захаду. А гэта не толькі адзенне і абутак для маламаёмых, а і медыцынскае абсталяванне для раённай бальніцы, і мэбля для дзіцячых садкоў і школ раёна... Калі ўсё гэта перавесці ў грашовы эквівалент, то атрымаецца астранамічная сума. І таму мясцовыя ўлады зацікаўлены ў супрацоўніцтве з грамадскімі аб'яднаннямі.

Пасля сустрэчы ў райвыканкаме ў большасці прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый склалася ўражанне, што кіраўнік раёна, як і яны, бачыць адну з галоўных перспектыў развіцця нашага краю ў грамадзянскай актыўнасці яго насельніцтва, калі не ўлады, а самі грамадзяне вырашаюць большую частку ўласных праблем. На сустрэчы былі дасягнуты рэальныя дамоўленасці (напрыклад, І.М.Палачанін паабяцаў вырашыць пытанне са зніжэннем арэнднай платы за памяшканне, у якім месціцца Цэнтр грамадскіх арганізацый).

**П.ЕРМАЧКОЎ.**

## КРЫМІНАЛ

# ЦЫГАНСКІ НАЕЗД

Дадатковыя праблемы стварае жыхарам нашага раёна блізкая мяжа з "старэйшым братам". Справа ў тым, што апошнім часам з Расіі на тэрыторыю нашага раёна пачасціліся цыганскія наезды.

Раніцай 17 лістапада такі "наезд" адбыўся на вёску Жыгулі. Мясцовыя жыхары мелі магчымасць назіраць цікавую карціну. Цыганы прыехалі ажно на трох машынах. На ўсіх аўто былі расійскія нумары. Дзейнічалі яны наступным чынам: частка "чарнявых" хадзіла па хатах з пчаліным мёдам на продаж, другія прапаноўвалі кожнаму сустрэчнаму паслугі па прадказанні будучыні. Былі сярод цыганоў і такія, хто проста браў усё, што дрэнна ляжала. Карацей кажучы – сапраўдны "брыгадны падрад", канчатковай мэтай якога з'яўляецца ўсімі магчымымі спосабамі выцягнуць як мага больш грошай з кішэняў даверлівых вяскоўцаў.

Фінал падзеі атрымаўся зусім крымінальным. Адна з жыхарак вёскі, прыйшоўшы з працы, звярнула ўвагу на незачыненыя ў хаце дзверы. Зайшоўшы, яна не далічылася ўсіх сваіх залатых упрыгожанняў. Адразу ж была выклікана міліцыя, аднак яе намаганні па затрыманні злачынцаў нічога не далі, бо матарызаваны цыганскі табар у гэты час быў ужо за "празрыстай" мяжой з нашым усходнім суседам.

**Ул. інф.**

## АПЫТАННЕ

**— У нашай краіне ёсць нямала катэгорый людзей, якім закон дае льготы па сацыяльныя паслугі. Як, па-вашаму, вырашае дзяржава гэта пытанне?**

***Г.Д., малады спецыяліст, г.Верхнядзвінск:***

— Ільготнікаў, мусіць, больш за звычайных людзей. Як не круці, а гэтыя льготы забяспечваюцца з кішэні астатніх падаткаплацельшчыкаў. У выніку моладзь, з якой бяруць і падаходныя, і пенсійныя, і страхавыя, і бязлітасныя, пры сваіх нізкіх стаўках вымушана яшчэ ўтрымліваць рознага кшталту "заслужаных" і "асаблівых". Добра, калі жыве малады чалавек у бацькоўскай хаце. А калі ён яшчэ з сваёй так званай зарплаты аплочвае і харчаванне, і пражыванне, то ці варта тады дзівіцца, што расце апошнім часам колькасць "бабылёў" ды "старых дзеў". Нешта тут не так.

***С.У., служачы, г.Верхнядзвінск:***

— Усе, каму даюць ільготы, заслугоўваюць іх. Але хіба не заслужылі іх былыя простыя калгаснікі, цяперашнія рабочыя, настаўнікі і медыкі? Мы ўсе жабракі, а льготы толькі настройваюць адну групу людзей супраць другой. Ні адменай, ні пашырэннем ільгот праблему не вырашыць. Трэба мяняць усю аснову нашага жыцця.

***А.Б., былы вязень канцлагера, г.Верхнядзвінск:***

— Я сам ільготнік. Праўда, Лукашэнка сваімі ўказамі скасаваў шмат ранейшых нашых прывілеяў, і часам нам даводзіцца плаціць пені і штрафы, бо мы не зрабілі своечасова нейкіх выплат з прычыны нязведання чарговага ўказу аб скасаванні льгот. Штодзень даводзіцца чуць зневажальныя кпіны ў свой адрас, нібыта мы вінаватыя, што сталі "нахлебнікамі" ў збяднелай дзяржавы.

***С.В., рабочы, в.Бігосава:***

— Лічу, што асновай для льгот павінны стаць рэальныя ўзровень дабрабыту чалавека, нягледзячы на яго былы і цяперашні статус. Напрыклад, ільготны праезд грамадскім транспартам варта даваць тым, у каго транспартныя расходы складаюць звыш 10 працэнтаў ад месячнага заробку. Расходы на лекі па хранічных захворваннях па вінны б аплочваца самім хворым таксама да гэтай мяжы, астатняе (па нормах рэцэпта) мусіла б легчы на плечы дзяржавы, якая не забяспечыла якасную ахову здароўя свайго грамадзяніна.

***Хомка, в.Бароўка:***

— Дайце мне адну ільготу – бясплатную бутэльку гарэлкі на тры дні, закусь буду здабываць сам. Хаця, калі шчыра, наш Бацька гэта разумее, і "святая вада" ў нас – самая танная ў свеце.

## Равеснікі



(фота В.Хархардзіна)

## ЮРИДИЧЕСКАЯ КОНСУЛЬТАЦИЯ

# ВАС ПОСЫЛАЮТ В КОМАНДИРОВКУ

Я имею двоих детей в возрасте до 14 лет. Недавно директор организации, в которой я работаю, сообщил мне, что в скором времени я должна буду поехать в длительную командировку для повышения квалификации. Однако я имею двоих детей до 14 лет. Есть ли у меня право отказаться от поездки в командировку на этом основании?

**В.В.**, *г.Верхнедвинск.*

***Комментарий юриста Верхнедвинской районной организации "Камітэта абароны правоў працоўных":***

Вы совершенно правы. В соответствии со ст. 263 Трудового кодекса Республики Беларусь, женщины, имеющие детей в возрасте от трех до четырнадцати лет (детей-инвалидов — до восемнадцати лет), могут привлекаться к ночным, сверхурочным работам, работам в государственные праздники и праздничные дни, работам в выходные дни и *направляться в служебную командировку* только с их согласия. Так что Вы имеете полное право отказаться от поездки в командировку. Если кому-то из Ваших детей не исполнилось трех лет, то эта же статья Трудового кодекса вообще запрещает направление в служебную командировку женщин, имеющих детей в возрасте до трех лет.

## ЧУТКІ

***Ходзяць...***

... што некалі прэстыжная праца ў паштовай сувязі паступова пачынае губляць сваю прывабнасць. Справа ў тым, што заробак паштовага апарата залежыць ад выканання плана. Напрыклад, кожнаму з іх даводзіцца план па паслугах. Сюды ўваходзіць і падпіска на перыядычныя выданні. Зразумела, што ў сувязі з падзеннем жыццёвага ўзроўню насельніцтва, план па падпісцы з кожнай падпісной кампаніяй становіцца выконваць усё цяжэй. Кажуць, што некаторыя з кемлівых паштовых работнікаў знайшлі выйсце: каб не губляць заробак, яны на дзесяткі экзэмпляраў найбольш танных выданняў падпісалі... саміх сябе.

***Спраўдзіліся...***

... што нарэшце знойдзены новы дырэктар у Верхнядзвінскі лягас. Праўда, прывезлі яго не з Ушач, як мы паведамлялі, а з Чашнікаў. Кажуць, што для яго лягас будзе купляць кватэру. Грошы на яе, быццам бы, выдзяляе Міністэрства. На думку рабочых, добра было б, каб новы кіраўнік пачаў працу з вывучэння вопыту П.Е.Івашчанкі.

## З СУЧАСНАГА ФАЛЬКЛЁРУ

*Хвалявалася учора,*
*Разбалелася душа:*
*А ці Буша, а ці Гора*
*Выберуць у ЗША?*

*Аддалі б нам свайго Гора –*
*Мы пазбавіліся б гора,*
*А як не пашэнціць Бушу –*
*І яму аддалі б душу.*



## ПАМЯЦЬ

# ПАРТЫЗАНСКАЯ ВАЙНА

**Партызанская эпапея ў кнізе "Памяць" пададзена незавершанай, з карных экспедыцый не названы тыя, якія ладзіліся пасля знішчэння Асвейшчыны. А трагедыя ж напаткала яшчэ Кабыльнікі і Жудзілаўку, Гваздова і Верасна – дзесяткі вёсак Галубаўшчыны, Дзёрнавіцкага і Чапаеўскага сельсаветаў.**

### "ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ" КАРНІКАЎ

Наступала цяжкая восень 1943-га. Пад пагрозай набліжэння фронту немцы нарошчвалі сілы і імкнуліся ачысціць свае тылы ад партызан. У другой палове кастрычніка яны падвезлі да партызанскай зоны войскі 201-й ахоўнай дывізіі, часцей 3-й танкавай арміі, "вывелі на старт" чарговай карнай экспедыцыі пад кодавай назвай "Генрых" пяць паліцэйскіх палкоў СС, некалькі батальёнаў сувязі, артылерыйскія і іншыя падраздзяленні рэгулярных войскаў, паліцэйскія фарміраванні з Латвіі і Літвы, Эстоніі і Украіны.

Па сведчаннях узятых у палон немцаў рэгулярныя выпускі паліцаяў з літоўцаў і латышоў былі наладжаны ў Рызе. Праўда, меліся выпадкі, калі свежастворания батальёны адразу разбягаліся. Да восені 1943 года былі ўжо сфармаваны падобныя зграі ў бліжняй Дзісне. Адсюль прыйшоў 314-ы і 315-ы латышскія батальёны па 700 – 800 галаварэзаў у кожным.

29 кастрычніка 50-тысячная армія карнікаў выйшла на зыходныя рубяжы, а на наступны дзень рушыла на партызан пасля інтэнсіўнай бамбёжкі, якую вялі 20 самалётаў.

За пешыя дзесяць дзён цяжкіх баёў удалося рассекчы партызанскую зону па лініі Полацка-Себежскай шашы. Спроба разрэзаць яе ў папярочным напрамку не ўдалася. Партызаны зрабілі непраходнай для ворага Дрысенска-Невельскую шашу. Лясны масіў паміж Нішчай і Свольнай трымаўся.

За галоўнымі баямі партызаны не забываліся "клапаціцца" і пра нямецкі тыл, ладзячы дробныя дыверсіі, абараняючы насельніцтва. Тысячы мірных жыхароў кінуліся наўцёкі да партызан. Баі абяцалі стаць зацяжнымі. Фрунзеўцы зрабілі налёт на гарнізон у Ксаверныне (Латвія), удала папоўніўшы збройны запас. Боепрыпасы дастаўляліся і самалётамі, аднак іх усё роўна не хапала.

Энергічна дзейнічала 2-я Дрысенская брыгада. З дапамогай жыхароў вёсак Аляксееўцы, Пярэкі, Залессе і інш. партызаны ўмацоўвалі абарону на Нішчы і Дрысе, ладзілі дыверсіі на бальшаках і чыгунцы, на іх рахунку з'явіліся нават падбітыя танкі.

*«БАЯВОЕ ДАНЯСЕННЕ за перыяд з 1 па 10 лістапада 1943 года.*

*2-й Дрысенскай партызанскай брыгадай за гэты перыяд агнём артылерыі і ПТР падбіты 1 нямецкі танк, знішчаны 2 легкавыя штабныя і 1 грузавая аўтамашыны.*

*Захоплены ў палон унтэр-афіцэр і 21 нямецкі салдат. На мінах падарвана 17 салдат і афіцэраў.*

*Камандзір 2-й Дрысенскай парт. бр-ды Кухарэнка».*

(НА РБ, ф.3500, воп.4, спр.29, л.4).

**А.БУБАЛА.**